Год выдавецтва 1. ЦАНА НУМАРУ 30 гр.

# ПРАВАСЛАЎНАЯ БЕЛАРУСЬ

ЦАРКОЎНА-ГРАМАДЗКІ і ПАЛІТЫЧНЫ, ДВУТЫДНЁВІК.

№ 6 | 15 СЬНЕЖНЯ. | 1927 г.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ: Вільня, Людвісарская вуліца № 1.

ПАДПІСНАЯ ЦАНА да канца года 1 зл. 50 гр.

ЦАНА АБВЕСТАК: на 1-шай старонцы 30 гр., пасярод тэксту 25 гр., на апошняй старонцы 20 гр., за рад. пэтыта.

## Пачатак выбарчай кампаніі.

У гэтым нумары „Прав. Беларусі“ нашы падпішчыкі знойдуць адозву да грамадзян - беларусоў ад Цэнтральнага Беларускага выбарнага блёку. Гэтай адозвай распачынаецца наша выбарная кампанія. Першы крок зроблены і зроблены у тым кірунку, які ад пачатку падтрымлівала нашае часапісь у кірунку, консалідацыі, г. е. аб'еднаньня беларускіх сілаў. У гэты беларускі блёк увайшлі тры ведамых беларускіх партыі: Сялянскі Саюз, „Беларуская Х. Д.“ і наша „Праваслаўна Беларускае Аб'еднаньне“. Апрача таго вайшлі безпартыйныя радыкалы пад старшынством п. Сабалеўскага, які дагэтуль належыў да зліквідаванай урадам Грамады.

Ад гэтага часу кожны беларус, якому дорага яго нацыанальная справа, павінен добра ведаць і цьвёрда помніць, што ён павінен будзе аддаць свой голас за той спісак, які будзе выстаўлены гэтым блёкам. Але яшчэ да гэтага часу перад намі стаіць вельмі вялікая праца,— падгатоўка выбарных сьпіскаў, адшуканьне і падбор тых лепшых людзей, якіх мы мусім паслаць да Сойму і Сэнату. Дзеля гэтага мы павінны гуртавацца кожны каля сваей партыі: закладаць гурткі і аддзелы, выяўляць тых працаўнікоў, якія ўжо на дзеле паказалі сваю здольнасьць да палітычнай працы. Горача прызываем мы ўсіх, хто хоча і можа працаваць, пачы-

наць гэтую работу; гдзе яна не пачалася, — рабіць гэтыя патрэбныя цэнтры, шукаць здольных і сьвядомых людзей, і абаўсім пісаць нам, каб консалідаваць сваю працу с цэнтрам. Калі патрэбна будзе што дапамагчы ў гэтай працы, просім зварочывацца да нас з запытаньнямі, пасылаць сваіх хадакоў да нас у Вільню, дзе мы будзем даваць усе патрэбныя указаньні, ці таксама ў патрэбных выпадках пашлем на мейсца сьвядомага чалавека.

Далоў усякія ўнутраныя спрэчкі! Далоў усялякую грызьню і межусобныя лаянкі, якія даўно ўсім так абрыдлі! Усе злучайцеся і гуртуйцеся каля адзінага межпартыйнага беларускага блёку, які ўжо вядзе і далейшую працу па аб'еднаньню ўсіх меньшасьцяў у адзіны меньшасьцёвы блёк.

За працу!

Бог на помач!

# АДОЗВА.

**Грамадзяне Беларусы, Сяляне і Работнікі!**

Закончылася істнаваньне Польскага Сойму, у якім першы раз прыймалі чынны ўдзел і прадстаўнікі Беларускага Народу.

У цяжкіх варунках працякла іх пяцёхгадовая праца. Усе польскія партыі, ня выключаючы нават і польскай лявіцы, як напрыклад: Вызваленьне, Польская Партыя Сацыялістычная, рожныя польскія хлопскія партыі і інш., варожа адносіліся да ўсякіх праяваў Беларускага Нацыянальнага руху. Галасамі гэтай большасьці душылася кожнае змаганьне беларускіх прадстаўнікоў за абарону правоў Беларускага Народу, што рабіла немагчымым творчую ўставадаўчую працу на карысьць беларускага працоўнага народу, змаганьня за яго свабоду, за яго нацыянальную асьвету, за адраджэньне і сацыяльнае вызваленьне. Замест гэтага, пры помачы ўсіх польскіх партыяў, праводзіліся законы аб асадніцтве і крэдыты на палянізацыю нашага краю. Для беларускіх прадстаўнікоў у Сойме, якія прайшлі па сьпіску блёку нацыянальных меншасьцяў № 16, аставалася толькі: з аднаго боку дэманстраваць перад Соймам і перад усім сьветам аб гэтых адносінах польскай нацыянальнай большасьці і польскіх уладаў да Беларускага Народу, б з другога—пашыраць нацыянальную і палітычную сьведамасьць і гэтакай дарогай вясьці барацьбу за лепшую будучыню свайго народу. Ня лёгкая гэта была барацьба.

Але-ж гэтая барацьба, хоць і ня прынясла адразу палёгкі ў цяжкай гаротнай долі нашага працоўнага народу, аднак падгатавала грунт для далейшага змаганьня за правы і інтэрэсы Беларускага Народу. Усе мы бачым, як пашырыўся беларускі рух і беларуская сьведамасьць за гэтыя пяць гадоў, і тут мы ня можам ня адзначыць, што ў большай сваей часьці гэта ёсьць праца тых паслоў, якіх выслаў Беларускі Народ у Польскі Сойм, якія ня шкадавалі ні сваіх сілаў, ні сродкаў, ні нават свайго жыцьця ў гэтай барацьбе.

Зьбліжаюцца новыя выбары ў новы Польскі Сойм і Сэнат. Падыходзіць пара, калі Беларусы павінны на практыцы выявіць сваю нацыянальную сьведамасьць — ізноў паслаць на соймавую працу лепшых прадстаўнікоў свайго Народу, — для далейшай абароны сваіх нацыянальных і сацыяльных правоў. Трэба напружыць усе сілы, каб такія паслы-прадстаўнікі — прайшлі ў Сойм і Сэнат у найбольшай колькасьці. Трэба аб'яднаньня ўсіх беларускіх сілаў!

У мэце гэтага аб'яднаньня, у Вільні стварыўся Беларускі Цэнтральны Аб'еднаны Выбарны Камітэт, у які ўжо ўвайшлі прадстаўнікі беларускіх партыя-

яў: Беларускага Сялянскага Саюзу, Беларускай Хрысьціянска-Дэмократычнай Партыі, Праваслаўна-Беларускага Дэмократычнага Аб'яднаньня і грамадзянства, згуртаванага каля Віленскага Беларускага Нацыянальнага Камітэту і б. Беларускага Пасольскага Клюбу.

Камітэт мае на сваей мэце арганізацыйнай працай дапамагчы Беларускаму Народу правясьці ў Сойм і Сэнат найздальнейшых прадстаўнікоў, якія будуць шчыра змагацца за нацыянальныя і сацыяльныя правы Беларускага Народу, — за правы нашага працоўнага сялянства, работніцтва, за зямлю беларускаму сялянству бяз выкупу, за палітычную, грамадзкую і рэлігійную свабоду Беларускага Народу, за яго нацыянальную школу і самаўрады.

Камітэт ужо прыступіў да сваей арганізацыйнай працы.

Беларусь для Беларусаў!

Усе Беларусы аб'яднайцеся каля адзінага свайго Беларускага Цэнтральнага Аб'яднанага Выбарнага Камітэту!

Усіх, хто любіць сваю Бацькаўшчыну, хто верыць у яе сьветлую будучыну, хто змагаецца за яе нацыянальнае і сацыяльнае адраджэньне, — усіх заклікаем да працы з Камітэтам!

Вільня, дня 7 сьнежня 1927 г.

**Бел. Цэнтр. Аб'яднаны Выбарны Камітэт:**

Ф. Ярэміч, В. Багдановіч, Я. Пазьняк, Б. Рагуля, Ю. Сабалеўскі, П. Каруза, А. Стэповіч, І. Куніцкі і Л. Голад.

Адрэс Камітэту: Вільня, Вострабрамская 8, кв. 1.

# Распараджэньне аб выбарах у Сойм і Сэнат.

5-га сьнежня ў „Dzienniku Ustaw Rzeczypospolitej" абвешчана наступнае распараджэньне:

„На аснове арт. 13 выбарчага расьпісаньня ў Сойм, заключанага ў законе 28 ліпня 1922 г. (Dz. U. Rz. № 66, poz. 590), а так-жа арт. 9 выбарчага расьпісаньня ў Сэнат, заключанага ў законе 28 ліпня 1922 г. (Dz. U. Rz. № 66, poz. 591) вызначаю выбары ў Сойм і Сэнат. Галасаваньне ў Сойм адбудзецца 4 сакавіка 1928 г., а ў Сэнат 11 сакавіка 1928 г. Выбарчыя чыннасьці павінны быць выкананы ў тэрмінах, адзначаных у выбарчым каляндары, далучаным да гэтага распараджэньня".

Прэзыдэнт Рэспублікі (—) **Масьціцкі.**
Прэм'ер Рады Міністраў (—) **Пілсудскі.**
Міністар Унутр. Спраў (—) **Славой-Складкоўскі.**
Міністар Справядлівасьці (—) **Мэйштовіч.**

## ВЫБАРНЫ КАЛЕНДАР

**абвешчаны ў „Dzienniku Ustaw Rzeczypos-politej Nr. 107" 5 сьнежаня 1927 г.**

**13 сьнежаня.** 8 найбольшых пасольскіх клюбаў прадстаўляе Гэнэральнаму Выбарнаму Камісару 8 сяброў дзяржаўнае выбарчае камісіі і гэтулькі-ж заступнікаў.

**15 сьнежаня.** Гэнэральны Выбарны Камісар на прапанову старшыні адпаведнага апэляцыйнага суду назначае павадыроў акружных выбарных камісіяў (Ваявода, Камісар Ураду) назначае па 1 сябру акружных выб. камісіяў.

Адміністрацыйныя ўлады і інстанцыі абвяшчаюць ува ўсіх валасьцях падзел іх на выбарчыя абводы, з вызначэньнем выбарчых памешканьняў і кватэры абвадовае выбарнае камісіі. Аб павышшым адначасна гэтая самая ўлада паведамляе павадыра (старшыню) Акружное Выбарчае Камісіі і Галоўны Статыстычны Ўрад. Гэнэральны Выбарны Камісар абвяшчае ў „Monitorze Polskim" склад асобаў і ўрадавае памешканьне дзяржаўнае выбарчае камісіі, так-жа мейсца, час, спосаб і апошні тэрмін падаваньня дзяржаўных сьпіскаў кандыдатаў.

**17 сьнежаня.** Гэнэральны Выбарны Камісар абвяшчае ў ваяводзкім „Dzienniku Urzędowym" назначэньне павадыроў (старшынь) акружных выбарных камісіяў, іх заступнікаў (Ваявода, Камісар Ураду), абвяшчае назначэньне сябраў акружных выбарчых камісіяў, праз вызначэньне.

Меставыя рады, сабраньні адносных валасьцей, выбіраюць сяброў акружной выбарчай камісіі.

**19 сьнежаня.** Павадыр Акружной Выбарчай Камісіі абвяшчае асабісты склад Камісіі ў ваяводзкім „Dzienniku Urzędowym". Акружная Выбарная Камісія абвяшчае ўва ўсіх валасьцёх дзень выбараў, гадзіны галасаваньня, лік пасloў, каторыя маюць быць выбранымі з акругі і час, спосаб і апошні тэрмін падаваньня кандыдатаў і дэкларацыяў аб прылучэньні акружнага сьпіску да дзяржаўнага сьпіску, а так-жа аб асабістым складзе і ўрадавым памешканьні.

**20 сьнежаня.** Валасная Рада і сабраньне солтысаў, ці Камісар Ураду, ці павятовы аддзел назначае, ці вызначае 3 сяброў абвадовай выбарчай камісіі і гэтулькі-ж іх заступнікаў.

**25 сьнежаня.** Начальнік і воласьцяў (прэзыдэнты, бурмістры, войты, кіраўнікі даменіальных абшараў) робяць для кожнае мясцовасьці сьпісак выбаршчыкаў у 3 экзэмплярах.

Павадыр Акружной Выбарчай Камісіі паведамляе начальніка воласьці аб скадзе Раённых выбарных камісіяў і падае аб гэтым да публічнага ведама.

**27 сьнежаня.** Начальнік воласьці перасылае 3 экзэмпляры сьпіску выбаршчыкаў павадыру Абвадовай Выбарчай Камісіі.

**1 студзеня.** Абвадовая Выбарчая Камісія перасылае 1 экзэмпляр сьпіску выбаршчыкаў Акружной Выбарчай Камісіі.

**2 студзеня.** Абвадовая Выбарная камісія выстаўляе сьпіскі выбаршчыкаў для публічнага агляду.

**15 студзеня.** Апошні дзень выстаўленьня сьпіскаў выбаршчыкаў для пераглядy.

**16 студзеня.** Апошні тэрмін падаваньня рэклямацыяў у Абвадовую Выбарную Камісію проціў неўпісаньня каго-колечы ў сьпісак, ці якое-небудзь незаконнае запісі.

**22 студзеня.** Апошні тэрмін падаваньня спраціву рэклямацыяў проціў вычырківаньня са сьпіскаў.

**24 студзеня.** Падаваньне дзяржаўных сьпіскаў кандыдатаў.

**27 студзеня.** Абвадовыя Выбарныя Камісіі перасылаюць Акружной Выбарнай Камісіі 2 экзэмпляры сьпіскаў выбаршчыкаў.

**30 студзеня.** Абвадовыя Выбарныя Камісіі прымаюць спраціва проціў вычырківаньня са сьпіску выбаршчыкаў і дабавачна перасылаюць іх у Акружную Выбарную Камісію.

**1 лютага.** Кандыдаты з дзяржаўных сьпіскаў падаюць Павадыру Дзяржаўнай Выбарнай Камісіі дэкларацыі аб сваей згодзе на пасольскі мандат.

**3 лютага.** Гэнэральная Выбарная Камісія абвяшчае ў „Monitorze Polskim" дзяржаўныя сьпіскі кандыдатаў, падаваньне акружных сьпіскаў кандыдатаў.

**5 лютага.** Акружныя Выбарныя Камісіі перасылаюць абвадовым выбарчым камісіям 2 экзэмпляры аканчальна зацьверджаных сьпіскаў выбаршчыкаў, адначасна 3 экзэмпляры перасылаюць да Начальнікаў воласьцяў.

**9 лютага.** Павадыры Абвадовых Выбарных Камісіяў выстаўляюць аканчальна зацьверджаны сьпісак выбаршчыкаў для публічнага агляду.

**11 лютага.** Кандыдаты з акружных сьпіскаў падаюць Павадыром Акружных Выбарных Камісіяў дэкларацыю аб сваей згодзе кандыдаваньня. Паўнамоцнікі акружных сьпіскаў кандыдатаў падаюць Павадыру Акружной Выбарнай Камісіі дэкларацыю аб прылучэньні акружнога сьпіску да сьпіску дзяржаўнага.

**13 лютага.** Апошні дзень выстаўленьня сьпіскаў для публічнага агляду аканчальна зацьверджанага сьпіску выбаршчыкаў.

**21 лютага.** Акружныя Выбарныя Камісіі дастаўляюць Абвадовым Выбарным Камісіям афішы са сьпіскамі кандыдатаў у мэтах публікацыі.

### 4 сакавіка, галасаваньне ў Сойм.

**7 сакавіка.** Паседжаньне Акружной Выбарчай Камісіі для ўстанаўленьня вынікаў выбару ў Сойм.

### 11 сакавіка, галасаваньне ў Сэнат.

**14 сакавіка.** Паседжаньне Акружной Выбарнай Камісіі для ўстанаўленьня выбару ў Сэнат.

Пашырайце сваю часопісь сярод праваслаўных чытачоў.

# USTAWA — УСТАВА.

594.

## Ustawa

z dnia 5 sierpnia 1922 r.

**w sprawie wolności zgromadzeń przedwyborczych.** (Dz .Ust. Rrp. z dnia 18 sierpnia 1922 r.Nr. 66).

Art. 1. Wszystkie zhromadzenia, zwoływane przez wyborców, względnie przez kandydatów na posłów, w okresie wyborczym, t. j. od dnia rozpisania wyborów aż do dnia wyborów, nie wymagają zezwolenia władz administracyjnych.

Art. 2. Zgromadzenie przedwyborcze na drogach i placach publicznych winno być zgłoszone przez osobę, zwołującą zgromadzenie, przed odpowiednią władzą administracyjną 1 instancji lub najbliższym posterunkiem policyjnym w terminie nie późniejszym niż na 24 godziny przed rozpoczęciem zgromadzenia.

Art. 3. Zgłoszenie, wspomniane w art. 2, może być pisemne albo ustne i powinno zawierać: 1) imię i nazwisko zwołującego, 2) oświadczenie, że zgromadzenie to jest przedwyborcze, 3) adres zwołującego. Władze niezwłocznie wystawiają poświadczenie o zgłoszeniu zgromadzenia.

Art. 4. Wymienione w art. 3 zgłoszenie i poświadczenie są wolne od wszelkich opłat stemplowych.

Art. 5. Ustawa niniejsza nie krępuje w niczem zebrań w lokalach zamkniętych, przyczem podwórze i ogródek, stanowiące organicznie zamkniętą całość z gmachem, uważa się za lokal zamknięty.

Art. 6. Wszystkie postanowienia dotychczasowych przepisów, sprzecznie z niniejszą ustawą, tracą moc prawa.

Art. 7. Ustawa niniejsza wchodzi w życie z dniem jej ogłoszenia, a wykonanie jej powierza się Ministrowie Spraw Wewnętrznych.

Marszałek: *Trąmpczyński*
Prezydent Ministrów: *Juljan Nowak*.
Minister Spraw Wewn.: *A. Kamieński*.

594.

## Устава

ад 5-га жніўня 1922 года

**ў справе вольнасьці прадвыбарных сабраньняў.** (Dz. Ust. Rzp. z dnia 18 sierpnia 1922 r. Nr. 66).

Ст. 1. Усе сабраньні, склікаючыяся выбаршчыкамі, або кандыдатамі на паслоў, у працягу выбарнага часу, г. ё. з дня распісаньня выбараў, не патрабуюць дазволу адміністрацыйнае ўлады.

Ст. 2. Аб прадвыбарным сабраньні на шляхах, грамадзкіх пляцох патрэба паведаміць асобай, склікаючай сабраньні, адпаведную адміністрацыйную ўладу першае інстанцыі, або найблізшы пастарунак паліцыі ў тэрміне не пазьнейшым, як за 24 гадзіны перад пачаткам сабраньня.

Ст. 3. Паведамленьне, указанае ў ст. 2, можа быць на пісьме, або на словах і павінна заключаць: 1) імя і прозьвішча склікаючага, 2) пасьведчаньне, што сабраньне гэта прадбыбарнае, 3) адрэс склікаючага. Улада безаткладна выстаўляе пасьведчаньне, што паведамлена аб сабраньні.

Ст. 4. Ускзаанае ў ст. 3 паведамленьне і пасьведчаньне асвабажаюцца ад усялякіх гербавых сбораў.

Ст. 5. Устава гэтая зусім не адносіцца да сабраньняў у зачыненых памешканьнях, пры гэтым дзядзінец і агарод, становячыя агранічна зачыненую цэласьць з будынкам, уважаецца за зачыненае памешканьне.

Ст. 6. Усялякія пастановы, датыхчасовых правілаў, запярэчуючых з гэтай установай, трацяць юрыдычную сілу.

Ст. 7. Устава гэтая ўходзіць у жыцьцё з днём яе агалашэньня, а выпаўненьне яе давераецца міністру Ўнутраньніх Спраў.

(—) Маршалак: *Тромпчынскі.*
(—) Прэзыдэнт Міністраў *Юліян Новак.*
(—) Міністар Унутраньніх Спраў: *А. Каменскі.*

# „Ганімая і таржаствуючая“.

(Аканчаньне).

Я яшчэ раз зьвярнуўся да пытаньня аб атэістычнай прапагандзе і запытаў, ці няма дадзеных аб яе росьце. Бацюшка, усьмехнуўшыся, выняў нумар газэты „Бязбожнік“ і паказаў мне на „заззваньне“ Саюзу Бязбожнікаў да сваіх сяброў. Я пасьля купіў гэты нумар і прываджу з „заззваньня“ некалькі вынятак.

„За самымі малымі вынягкамі, не адна арганізацыя Саюзу Бязбожнікаў сваіх фінансавых абавязкаў перад саюзам да гэтае пары ня выкановывае: сяброўскіх складкаў ня плацяць. Ці патрэбна гаварыць, што такі стан рэчы ставіць пад удар самае істненьне нашае арганізацыі. Бяз грашэй арганізацыя істнаваць ня можа. Ці можна „ныць“ аб тым, што цяжка заплаціць 60 коп. у год, або ў апошнім выпадку—рубель“.

Далей „заззваньне“ напамінае, што сяброўства С. Б. у „Інтэрнацыянале Пралетарскіх Свабодамыслячых“ накладае на кожнага бязбожніка абавязак унасіць да касы Інтэрнацыянала адну капейку ў год. Але-ж і гэта „інтэрнацыянальная капейка“ на працягу двух з паловай гадоў ня ўнесяна толькі дзеля таго, што цэнтральны савет, ня гледзячы на неаднакратныя напамінаньні мяйсцам аб яе ўносе, не атрымоўваў ні адкуль. Ня атрымоўваючы належных узносаў Ц. С. не ў стане нясьці да касы Інтэрнацыянала 4.500 руб., якія належаць з 200.000 сяброў за 2 два з паловай гады. У сваім апошнім пісьме Інтэрацыянал гаворыць, што ён заўсёды прыслухоўваўся да голаса рускіх таварышчаў і лічыўся з іх мненьнем. Але інтэрнацыянал баіцца, што затрыманьне надальш у пакрыцьцю даўгоў, лічашчыхся за Саюзам Бязбожнікаў, можа пацягнуць за сабою пазбаўленьня права голасу і выключэньне з складу сяброў Інтэрнацыянала. Дапусьціць, каб капеечны ўзнос зарваў усю нашу заграрічную работу, мы ня ў якім разе няможам і не дапусьцім. („Бязбожнік“, № 233).

Вы бачыце,—сказаў прафэсар—што нават афіцыяльна ў многамільённай Расеі лічыцца толькі 200.000 атэістаў, і нават яны ня выпаўняюць сваіх абавязкаў перад сваім саюзам.

Што-ж датычыць самае газэты „Бязбожнік“,—прадаўжаў мой сабеседнік,—дык у нас на жарты называюць яго „Епархіяльнымі Ведамасьцямі“. Газэты маўчаць аб царкоўных справах, а адтуль хоць у зьдзечнай форме, але мы атрымліваем шмат цікавых ведамасьцяў. Прафэсар паказывае мне некалькі нумароў. У адным—расказ аб паломніцтве да казанскага образа Божае Мацяры, у другім,—што лічыўшыяся загінуўшым чудатворны образ Уладзімірскае Божае Мацеры рэстаўрыраваны ў адным з музэяў. Далей—расказ аб пасьвяшчэньні епіскапа, аб урачыстых багаслужэньнях, аб збудаваньні новае царквы, аб вымаганьні рабочых паставіць образ на заводзе і г. д.

Зьдзецкі тон заметак і стацей нас ня чапае,—гаворыць прафесар. Гэта-ж стогн бязсільных. Яны так-жа бязсільны, як спробы раскалоць царкву шляхам стварэньня ўсялякіх „жывых царкоў“ і г. д. Арганізацыі гэты так-жа хутка ўміраюць, як і нараджаюцца. Яны жывуць і пажыўляюцца штучна.

Я ня стаў далей затрымоўваць сваей бясед́ай змучанага пастыра. Было шмат пытаньняў, узбурываючых мяне, але аб іх я не асьмеліваўся гаварыць. Ад гэтае бяседы пазасталася ў мяне ясная ўражаньне. Калі ў перыод ганеніяў і праследаваньняў ідэёвыя хрысьцьяне ўмеюць выхаваць у сваёй душы такі аптымізм, такую моцную веру ў нязыблемасьць царквы і ў здаровую душэўную моц рускага народу, дык дзейсна ганімая царква зьяўляецца таржаствуючай. Паўтараецца перыоды паганскіх ганеніяў на хрысьціянства і веруючыя, як і ў гэтыя далёкія часы, славяць Бога за ганеньні і, адпаведна з духам нашае рэлігіі, бачаць ў іспытаньнях толькі дабрв.

Калі моцны падобныя настроі ў Савецкай Расіі, а яны дзейсна моцны, гэта значыць, што ваінствуючы камунізм сваім агнявым языком бязсільна і дарма ліжа толькі падложа царквы. Успыхіваюць і згараюць толькі сьцёблы і сьмяцьцё каля царкоўнай цьвердзі. Царква выйдзе з бураў і іспытаньня загартаванаю, моцнаю, таржаствуючаю.

# 10-гадоў таму назад.

(З успамінаў аб працы Маскоўскага сабору ў часе бальшавіцкага перавароту).

(працяг).

**1-га лістапада.** Падчас размовы с сябром Сабору І. І. Белікавым у мяне ўзнікла думка аб магчымасьці з боку Сабора прапазыцыі пасярэдніцтва паміж ваюючымі старанамі. Парадіўшыся аб гэтым з некалькімі сябрамі Сабору, я напісаў адпаведнае заяўленьне для падачы ў заўтрашняе пленарнае паседжаньне. Гэта заяўленьне у некалькі мінутаў пакрылася масай подпісаў. Увечары, калі сябры Сабору, жыўшыя ў інтэрнаце сэмінарыі, сабраліся на прыватную нараду, высьнілася, што адначасна такая самая думка паўстала сярод яшчэ некалькіх сяброў Сабору, у тым ліку двух архіерэяў: Дзьмітрыя Таўрычаскага і Нестара Камчацкага. Гэты астатні ўвесь час, як толькі пачалася на вуліцах перастрэлка, падвязяўшы паверх расы, сумку з марляй, ватай і лякарствамі, хадзіў па вуліцах Масквы падбіраючы раненых і робячы ім перэвязкі. Яны таксама зложылі заяву Сабору.

Гэта заява і разглядалася цяпер на гэтай прыватнай канфэрэнцыі. Пасьля нямалых гарачых спораў, большасьць сяброў схілілася да прапазыцыі, каб заўтра дэпутацыя ад Сабору пайшла ў Рэвалюцыйны Камітэт з хадатайствам, каб спынена была стральба па Крамлю і наагул праліцьцё крыві і меж'усобная бойня. Тую-ж самую дэпутацыю і з такой самай просьбай рашылі паслаць і да другой стараны, — у Крэмль. У склад дэпутацыі былі выбраны тры архіерэя: мітр. Платон (цяпер Амэрыканскі), Нестар Камчацкі, Дзьмітры Таўрычэскі, два пратаіерэя: В. Бекарэвіч, Вл. Чэрняўскі і два міраніна: сяляне Уцін і Юдзін.

Трудна абрысаваць тое настраеньне, якое панавала на гэтай канфэрэнцыі. Пад уражаньнем таго, што тварылася кругом, ніхто ня мог гаварыць спакойна. Некатарыя гаварылі з плачам, з рыданьнямі, мімаволі вырываючыміся з грудзей. Рашылі заўтра прапанаваць сабору арганізаваць па вуліцам Масквы ўрачыстую працэсію (крэстны ход), ня гледзючы ні на якую стральбу, спадзеваючыся, што гэта працэссія можа зрабіць уплыў на ваюючых і спыніць міжусобную барацьбу.

Пасьля канфэрэнцыі, ня ведаю па чыйму пачыну, усе як адзін пайшлі ў дамавую сэмінарскую царкву якая знаходзілася тут-жа, радам з залай, каб адслужыць малебен аб прымірэньні враждуючых. Была ўжо 1-я гадзіна ночы. У некалькі мінутаў уся царква засьвяцілася агнямі сьвечак, якія і запалілі перад абразамі, і трымалі ў руках. Маліліся горача, шчыра. Пасьля малебна прапелі „со сьвятымі ўпакой" за ўсіх бяз розьніцы пагібшых у гэтай барацьбе,—за тых, хто ведаў і хто ня ведаў, за што і на што ён ідзе.

Пад'ём рэлігійны быў надзвычайны.

**2-га лістапада.** Гэтай ноччу ад 3 да 5 гадзіны я быў у другі, ці ў трэці раз „на караўуле" у садзе сэмінарыі. Гэта была самая страшная ноч! Грэмелі гарматы, трэскатня вінтовак і кулямётаў не перэрывалася ані на хвілінку. Бальшавікі, як гавоһуць, пастанавілі ў гэтую ноч узяць Крэмль, чаго б гэта не каштавала.

Раніцай яшчэ перад паседжаньнем дэлегацыя ад Сабору, ўзяўшы з саборнай царквы абраз Багародзіцы, сьвяціцеля Гермагена з машчамі і іншыя сьвятыні, з белым штандарам і перавязкамі з чырвоным крыжам на руках адправілася па вуліцах Масквы ў штаб Рэвалюцыйнага Камітэту, які знаходзіўся на Цьвярской вуліцы наўпроці памятніка ген. Скобелева.

Рэшта сяброў Сабору пайшла на паседжаньне, каб рашыць пытаньне аб тым, як і ў які спосаб павінен адбыцца апошні акт выбараў патрыарха, — выняцьце жрэбія (лёсаваньне). Праца ішла кепска. Нэрвы ўва ўсіх былі даведзены да астатняга напружаньня. Думкі ўсіх былі аб тым, што робіцца з дэлегацыяй. Пальба на вуліцах ішла без перарыву.

Пад час прамовы аднаго з аратараў адчыніліся дзьверы і ў залю Сабора вайшла з іконай Божай Мацяры вярнуўшаяся дэлегацыя. Усе сябры, як адзін,

паўсталі з мест і запеялі: „Заступніца усердная“. Парадак дня быў перарваны і пачаўся даклад мітр. Платона, як галавы дэлегацыі.

Даклад прынёс мала ўцешаючага. У салдатаў бальшавікоў надзвычайнае азлабленьне, як рэзультат упорнага супраціўленьня з боку засеўшых ў Кремле юнкероў і афіцэраў. Дэпутацыю дапусьцілі ў рэвалюцыйны Камітэт не адразу. Прыняты быў адзін толькі мітр. Платон, як галава дэлегацыі.—„Ужо позна, ужо позна“ адказываў камісар на ўсе прозьбы мітрапаліта *). — „Стральбу можна скончыць толькі тагды, калі паложаць аружжа юнкеры, якія сядзяць у Крэмлі“ Аднака дапусьціць тую самую дэлегацыю у Крэмль начальнік рэвалюцыйнага войска адмовіўся.

Рэшта дэлегатаў стаяла на пляцу каля памятніка Скобелеву і была сьведкай страшнай сцэны, калі перад імі сталі забіваць вінтовачнымі прыкладамі, а пасьля хацелі тут жа і разстрэліваць групу адкуль-та прыведзеных людзей, чалавек 25. Большасьць з гэтых людзей, былі па віду жыды. За нешчасных сталі заступацца сябры сабора. Салдаты злаваліся, але больш разумныя сталі слухацца, і перасталі біць безаружных людзей. Скора іх завялі на нейкі суседні двор. Якая іх там спаткала судзьба, Бог ведае.

Пакуль дэлегаты стаялі на вуліцы, чакаючы мітр. Платона, які быў унутры штабнога памешканьня, ім прышлося па свайму адрэсу выслухаць шмат розных непрыемнасьцяў, але ўсе-ж, калі з гэтымі варожа настроеннымі людзьмі пачыналі гаварыць спакойна, па чалавеччу, яны пачыналі зьмягчацца. Тагды начальнікі атрадаў пачыналі адганяць салдатаў ад сяброў сабору і забаранялі з імі размаўляць. Каля дзьвярэй бальшавіцкага штаба стаяла нейкая маладая жанчына, па віду жыдоўка, і моцным валадарскім голасам давала прыказы салдатам.

На пленарным паседжаньні пастанавілі аканчальныя выбары патрыарха (жребій) адлажыць да канца меж'усобнай вайны. Замест гэтага некаторыя сябры сабора прапанавалі зараз ісьці на вуліцы Масквы з урачыстай працэсіяй. Пад'ем быў так вялікі што ў прэнія нават уцягнулася і публіка, сядзеўшая на хорах. Многія ўпрашывалі са сьлязамі не чакаючы ні мінуты, браць абразы і з імі ісьці на вуліцу (у тым ліку быў і я), другія, наадварот, стараліся успакоіць, заўважыўшы на тую нябяспеку, якая маглаб быць для жанчын і дзяцей, якія пашлі-б за „крэстным ходам“. Гэты голас у канцы канцоў перамог. Цяпер і я скажу, што гэта было правідловае рашэньне, бо пры панаваўшым на вуліцах Масквы настраеньні, гэта працэсія не дала-б пажаданых вынікаў, а магло-б праліцца многа нявіннай крыві.

У канцы паседжаньня, па пачыну сябры Сабора Артамонава, было пастаноўлена зьвярнуцца да ваюючых старон з пісьменнай адозвай, у якой прасіць абедзьве стараны аб спыненьні барадзьбы і абстрэла маскоўскіх сьвятынь, а так сама аб тым, каб перамогшыя, хто-б яны ня былі, не былі-б жорсткімі для пераможаных. Гэта адозва перадрукаваная на машынцы ў 3-х экзамплярах (да Ваенна-рэвалюцыйнага Камітэту, да „Камітэту абшчэственнай безапаснасьці“ і да начальніка абароны Крэмля) было даручэна Артаманаву, які і быў упаўнамочаны Саборам даставіць іх па адрэсу. З гэтым даручэньнем ён выйшаў на вуліцу.

(Працяг будзе).

**В. Багдановіч.**

*) Пасьля доўгіх прозьбаў уладыка нават стаў перад начальнікам рэвалюцыйнага войска на калені.

## Польскае „Słowo“ аб „Праваслаўнай Беларусі“.

Польская монархічная газэта „Słowo“ зьмясьціла нядаўна (у № 279) стацьцю Любіча, пасьвячоную спэцыальна нашай „Праваслаўнай Беларусі“. Стацьця займае ў газэце амаль што ня палову першае староньні. З аднаго гэтага відаць як, наша часопісь зацікавіла, а вярней, як пабачым, устрывожыла польскую правіцовую прэсу.

Што так спалохала супрацоўніка польскай газэты? Аказываецца ні больш ні менш як пераконаньне, што мы

з сваей газэтай і з сваей партыяй П. Б. Д. А. з'яўляемся, як думае п. Любіч, амаль што не насьледнікамі „Грамады", працуючымі „з інспірацыі Чычэрына".

Здавалася-б, што адно тое, што мы і ў сваей часопісі, і ў сваей партыі пастаўілі на першым мейсцы рэлігію, павінна было-б адкінуць усякую магчымасьць сувязі з тымі элемэнтамі, якія аб'явілі сьмертны бой усякай рэлігіі. Але ў п. Любіча нейкая свая логіка, паводле якой іменна нашае становішча да рэлігіі, вярней, да праваслаўнае царквы ў Польшчы і з'яўляецца, здаецца, галоўнай падставай яго вывадаў.

Але будзем гаварыць папарадку.

Перад усім п. Любіч адзначае, што ўсе беларускія партыі быццам надта варожа адносяцца да Расеі (не гаворачы, якой Расеі). Адным, па яго поглядам, wyjątkiem з гэтага правіла была Грамада, якая праявіла сябе як прэдставіцельніца інтэрэсаў савецкіх. Мы так сама, па славам п. Любіча, адносімся да тых самых „выёнткаў" па меншай меры ў сваей палітыцы царкоўнай.

Гэту нашу прыхільнасьць да чырвонага Ўсходу „Słowo" убачыла ўперад за ўсё ў тым, што мы не змагаемся за выключэньне з праваслаўнага багаслужэньня царкоўна-славянскай мовы, бо, як кажа газэта: „праўдзівы рух беларускі, не заражоны мізмамі бальшавізму і не спэкулюючы дэмагагічнымі гасламі", павінен апірацца на грунце антырасейскасьці".

Пытаньне аб славянскай мове ў багаслужэньні для нас так важна і так цікава, што мы калі нябудзь у іншы час яго разважым у спэцыяльнай стацьці. А цяпер дадзём толькі караценькі адказ. У тым, што мы стаім за славянскую мову ў багаслужэньні, німа ані асобага русафільства, ані тым больш бальшавізму, ані дэмагогіі. Дзіўным здаецца, што гэта прыходзіцца высьняць той газэце, у якой працуюць усе-ж не безграматные людзі. Славянская мова, як ведама „Słowu", ужываецца ў царкве не толькі ў Расеі а і ў многіх іншых славянскіх праваслаўных народаў. Ужывалася некалі і Палякамі, якія спачатку прынялі Хрыстову веру ад вучняў сьвятых брацьцяў Кірыла і Мэфодзія. Для нас беларусоў царкоўна-славянская мова з'яўляецца *гістарычнай падставай нашай культуры*, якая ёсьць старэйшая культуры расейскай, і ад нас яна праз нашых і ўкраінскіх вучоных перанесена туды на ўсход. Ці нам, як напэўна хацелася-б „Słowu", прыгожа было-б пачынаць вясьці барацьбу з гэтай моцнай асновай нашай культуры і нашай літэратурнай мовы?

Барацьба з ц.-славянскай мовай як раз і ёсьць адным з бальшавіцкіх гаслаў. Бальшавікі ня толькі выгналі яе з школ і з жыцьця савецкага, але падтрымліваюць як барацьбу з ім і ў жыцьці царкоўным праз тыя царкоўныя групы (абнаўленцы, жывацаркоўнікі), якія схіліліся да бальшавіцкай ідэолёгіі.

На жаль, адтуль гэта барацьба з ц.-славянскай мовай перакінулася і ў Польшчу, на Заходнюю Украіну і, як можна бачыць з газэтаў, падтрымліваецца Ўрадам і ўжо ўнесла ў гушчы ўкраінскага праваслаўнага народу не пажданы для іх падзел і ўнутраную барацьбу. Вось тут-жа і пайшлі ў ход дэмагагічныя палітычныя гасла, якімі і стараюцца падаграваць гэтую барадзьбу. Гэтага мы і ня хочам для Беларускага Народу.

„Słowo" кажа (і некалькі раз гэта паўтарае ў сваей стацьці), што ўсю беларусізацыю царквы мы абмяжовываем толькі казаньнямі (прапаведзямі) у царкве на беларускай мове. І гэта не праўда, бо мы стаім за родную мову і ў духоўнай школе, і ўва ўсім адміністрацыйным жыцьці царквы. Не выключаем і так званага „дадатковага набажэнства", якой у свой час дазволіў (вярней, разьясьніў, бо гэта і раней не забаронівалася) перавадзіць на беларускай мове патрыарх Ціхан яшчэ у 1921 г. А калі славянская мова пазастанецца ў галоўным багаслужэньні беларускага народу, то гэта нічуць ня перашкодзіць яго нацыянальнаму адраджэньню і росту яго роднай культуры, а нават дапаможа гэтаму. Не перашкодзіла-ж нацыяналізму польскага народу ўжываньне лацінскай мовы ў касьцелі, як гэта адзначае і Любіч у аднэй з папярэдніх стацей у тым самым „Słowie". Але-ж лацінская мова для Палякаў, як славян, чужая, а славянская для нас — свая.

„Słowo" імкнецца паказаць, што рэлігійныя асновы нашай партыі істнуюць толькі *так*, нібы на паказ, што мэты нашы не хрысціанізацыя жыцьця, а нейкія іншыя. Довадам гэтага яно ставіць тое, што ў праграме нашае партыі, ад-

дзел рэлігіі абнімае толькі чатыры параграфы, а рэшта, трыццаць тры пункты, — маюць характэр грамадзка-палітычны. Але-ж „Слова" забылася, што гэта праграма палітычнае партыі. Ці ня дзіўна было-б, каб палову гэтай праграмы займала справа рэлігіі, ці царквы. У палітычнай праграме могуць быць адзначаны толькі прынцыповыя падставы, якія забязпечываюць царкве яе свабоднае істнаваньне ў дзяржаве, а рэшта ёсьць яе ўнутраняя справа, у якую не павінны ўмешывацца ані ўрад, ані палітычныя групы. У партыі БХД, якую нам ставе ў прыклад „Слово", рэлігійная праграма нічуць ня больш нашай і стаіць сусім не на першым мейсцы.

А наша „Праваслаўная Беларусь", якая фактычна ёсьць разясьненем нашай праграмы? Ці ня служаць яе старонкі, большая частка якіх занята пытаньнямі рэлігійнымі, ясным паказам таго, куды і да якіх мэтаў імкнецца і нашая партыя?!

Нарэшце, наша „прыхільнасьць да Чычэрына" (ня ведаю, ці ідэолёгічная, ці нават можа і актыўная — „Слова" не гаворыць) знаходзіцца ў тым, што мы не прызнаем польскай аўтокефаліі і рашуча стаім за цесную сувязь з царквой Маскоўскай (вярней — Усерасейскай). Калі-б гэта і было так, то нічога дрэннага ў гэтым не было. У цеснай сувязі з Маскоўскай Царквой стаяць праваслаўныя церквы ў многіх краёх і ў суседніх (напр. Літва, Латвія, Германія) і ў далёкіх (Амэрыка, Францыя, Японія) і ні адна з гэтых дзяржаў не абвінавачывае сваіх праваслаўных грамадзян у бальшавізьме і ня прасьледуе праваслаўнага духавенства, толькі... Польшча, ды яшчэ (хоць і далёка не так!) Фінляндзія!

Але-ж мы ў сваей царкоўнай праграме, якая падробна высказана у надрукаваным у „Прав. Беларусі" меморыяле, стаім і вядзём барадзьбу *не проці усякай аўтокефаліі, а проціў той, якая праведзена у Польшчы і якая зусім некананічна* а ні па свайму устрою, ні спосабу яе правядзеньня,— з цэлым радам гвалтаў, надужыцьцяў нават фальшаваньнем дакументаў (праз нябошчыка м. Геофія), якія павінны былі легчы ў аснову кананычнага істнаваньня Польскай царквы. Самыя гэтыя гвалты куды больш гавораць проціў аўтокефаліі, чым наша праца, бо ці можа быць мова аб аўтакефаліі (самагалоўі) там, гдзе няма, свабодзе царквы, і яе іерархіі.

Жадаючы кінуць цень на тых, хто сталі на чале „Праваслаўнай Беларусі", і партыі „ПБДА", Słowo напамінае, што п. Багдановіч ад польскай праваслаўнай царквы адлучаны польскай іерархіей, а Голад гэтай іерархіяй пазбаўлены сьвяшчэннага сана „za nieuznanie aŭtokiefalji". Яшчэ раней, дабавім мы, за тое самае высланы, ці запакаваны ў турмы чатыры архіерэі, архімандрыт (Ціхон) і адзін сьвецкі (Недзельскі). Добрая аўтокефалія! Але-ж гэтыя рэпрэсіі над намі нічуць нас ня рушаць. Адлучаць і пазбаўляць сана не маглі нас тыя, хто ня меў на гэта права, бо мы ніколі не належалі да „Аўтакефальнай Польскай Царквы" і не былі падпарадкаваны ёй, а запраўдная наша духоўнае начальства (патр. Ціхан) за вернасьць канонам прыслаў нам свае благаславеньне, якое нам куды важней і даражэй прыхільнасьці той іерархіі, якую само „Słowa" у свой час называла дзеячамі z pod ciemnej gwiazdy i o kiepskim sumieniu.

Каб зусім скампраміtаваць нас асабіста газэта піша:

„Пан Багдановіч разам з духоўнымі Голадам і Лявіцкім залажыў прыход „старой царквы", каторая ў істоце ёсьць нічым інным, як прадстаўніцай на нашай тэрыторыі царквы Маскоўскай, якая працуе з дазволу Саветаў і з інспірацыі Чычэрына ўтаргаецца ў унутраныя справы Польшчы".

Тут ёсьць адна праўда: калі мы не адлучыліся ад царквы „Маскоўскай" („Усерасейскай"), як не адлучыліся праваслаўныя і іншых странаў, то бязмоўна мы тут рэпрэзэнтуем гэтую цэркву. Цяпер на ўсім тэрэні Польшчы астаўся наш толькі адзін такі прыход. Але што Праваслаўная Усерасейская царква, у якой пад савецкай уладай за рэлігію пастрадала і памёрла сьмерцьцю мучэнікоў тысячы праваслаўнага духавенства і міран, гдзе сотні архіерэяў і цяпер таміцца ў небывалых муках, гдзе жыцьцё царкоўнае праваслаўнае царквы па ўсяму напамінае жыцьцё першых вякоў хрысьціянства, дык што гэта царква працуе ў згодзе з Чычэрыным, гэта тяжкая клевета на гэту царкву (а небезпасрэдня і на нас), якая вырвалася, як мы думаем, у супрацоўніка „Słowa", толькі можа ў перадвы-

барнай гарачцы з прычыны агульнага варожага настрою ўва ўсей польскай прэсе да ўсіх дзеячоў меньшасьцёвага блёку. Гэтыя радкі мы прынімаем, як абразу і будзем спадзявацца, што „Słowo“ выпрастае гэтыя неасьцярожныя і нячэсныя словы. Тое, што гэта газэта іншы раз на сваіх старонках давала хоць і не зусім, а ўсе-ж для польскай газэты досьць правідловую ацэнку палажэньня праваслаўнай царквы ў Польшчы, нам дае нейкае права на гэта спадзявацца.

**Рэдакцыя.**

## Бруковая газэтка аб Архіепіскапе Елеўферыі.

У Вільні ёсьць такая бруковая газэта „Express Wileński“. Я, праўду кажучы, ніколі яе ня чытаю і ня ведаю, нават ня цікаўлюся, аб тым, што там пішуць. Але-ж нехта прыслаў да мяне адзін № ад 1-га гэтага месяца, гдзе ў спецыальным Літоўскім адзеле зьмешчана надрукаваная буйным шрыфтам гэтакая вестка:

> **Arcybiskup Prawosławny Eleuterjusz pobłogosławił Waldemarasa na drogę do Genewy, życząc mu pomyślnego rozwiązania sprawy wileńskiej.**

Мне здаецца дужа непраўдападобным гэта надзвычай дзіўнае прыхільнасьць Вальдамараса да праваслаўнага архіерэя, бо ён, Вальдамарас, здаецца не праваслаўны і напэўна, калі-б хацеў атрымаць багаславеньне ў пуць-дарогу, дастаў-бы яго ці ад каталіцкага біскупа, ці ад ксяндза, нават літоўца. якіх у Коўне досыць.

Зьмясьціла гэтую заметку бруковая газэта ясна з аднэй мэтай, — паказаць: вось які Ваш Елеўферы, — благаслаўляе Вальдэмараса ехаць у Жэневу на барадцьбу з нашым прэмьер-міністрам. Але-ж, запытаюся я, калі-б гэта было і праўда, што-ж тут дзіўнага, ці дрэннага? Літоўская дзяржава прыняла архіепіскапа Елеўферыя ў лік сваіх грамадзян (у чым Польшча ў свой час ня толькі адмовіла, але і ні за што, ні пра што засадзіла яго ў манастыр, а пасьля выслала за граніцу), як грамадзянін гэтай дзяржавы, ён і павінен быць лояльным да свайго панства, а нават, павінен, паводле хрысьціянскага закону, вучыць гэтаму і сваіх пасомых, як гэта ён рабіў і тады ў Польшчы, у адносінах да якой так сама не стварыў нічога нелёяльнага ў той час, калі ўважаў сябе яе грамадзянінам. Цікава, што і тагды, калі арх. Елеўферы жыў у Вільні і з Вільні кіраваў ковенскай часткай сваей епархіі, ковенскі ўрад ня толькі не рабіў яму ў гэтым закідаў, але дазваляў яму прыяжджаць (у 1920 г.) у Ковеншчыну рэвізаваць цэрквы, а ковенскім парафіянам і духавенству прыежджаць у Вільню на эпархіальныя зьезды. Не прасьледуе і цяпер гэты ўрад архіепіскапа і за тое, што ён не стварыў у Ковеншчыне аутокефаліі, з таго відаць, што там на жаль усё-ж больш толеранцыі, чым у нас.

Але-ж газэта не абмежавалася адным толькі гэтым выпадам. Зараз за гэтай заметкай, буйным шрыфтам, ідзе маленькая увага дробнымі літарамі такога зьместу:

> Eleuterjusz był w swoim czasie biskupem prawosławnym wileńskim. W roku 1923 *zdemaskowano jego działalność antypaństwową*. W obawie przed adpowiedzialnością, Eleuterjusz *zbiegł do Kowna*, gdzie *uroczyście wystąpił w obronie praw Litwy do Wilna*. (Курсіў наш).

Бруковая газэтка і ёсьць бруковая: ілжа, фальш, клевета, выдумка, гэта яе стыхія. Так-жа напэўна добра ведама, што архіепіскап Елеўферы зусім ня *зьбег* з Вільні да Коўну, а ў начы з 13 на 14 кастрычніка 1922 году быў, *па просьбе мітрап. Георгія арэштаваны* польскімі ўладамі, пасаджаны ў асобны вагон разам з пішучым гэтыя радкі і *адвезены* проста ў *Кракаў*, гдзе пасадзілі яго ў каталіцкі Камадульскі манастыр, там трымалі яго каля чатырох месяцаў, ня дазволілі яму нават пабачыцца з сваім сынам, ня дазволілі, калі ён захварэў, прыехаць да яго духаўніку, каб паспавядацца і прычасьціцца, а на рэшце, *procі яго волі, выслалі яго за граніцу* ў Германію. Толькі тагды, ня маючы

магчымасьці вярнуцца ў Вільню, ён паехаў у тую частку сваей эпархіі ў Коўну, куды яму ехаць не забаранілі.

Напэўна ведама газэце і тое, што архіеп. высланы не за палітычныя справы (тагды-б яго судзіў польскі суд), а за справы царкоўныя, за тое, што ня мог узнаць самачыннага мітрапаліта „усей Польшчы“ і самачынны яго сынод за кананічную царкоўную уладу.

Не для палемікі з „Expressem Wileńskim“ мы гэта пішам, газэту не пераканаеш, бо гэта яе промысл, а для таго, каб перасьцярагчы ад амылковай думкі тых можа ня лічных „малых сіх“, якім ня ведама гэтая справа і якім можа усплысьці на думку нешта нядобрае аб чэстным, стойкім, дастойным свайго сана архіпастыра.

**В. Багдановіч.**

# ЦАРКОЎНАЯ ХРОНІКА.

## Мітр. Еўлогій аб палажэньні царквы.

8 лістапада ўзнавіліся у Парыжы парахвіяльныя ралігійныя „собеседаваніяˮ. Распачаў іх мітрап. Еўлогій паведамленьнем аб сучасным палажэньні царквы.

Зьнешняе палажэньне царквы ў Расеі, паводле слоў мітрапаліта, пазастаецца быццам такім-жа як і раней. Але ў адносінах да царквы савецкае ўлады, як відаць, шмат людзей бачуць „лавушку“. Можа быць, так яно і ёсьць. Але што-б ня рабіла сав. ўлада, царквы ёй ня ўдасца перамагчы, як гэта ня ўдалося да гэтага часу.

Праўдзівей тут другое прадпалажэньне. Разачараваўшыся ў сваей антыралігійнай палітыцы, улада капітулiравала, баючыся раздражняць народныя гушчы, каторыя ідуць за „Ціханаўскай царквоюˮ.

Як распачаліся перагаворы?

Клопаты аб унутранім устроі царквы здаўна непакоілі царкоўную ўладу.

За спробу, (папыткі) пры помачы анкэты зварочанае да епіскапаў намецiць наступнага патрыярха, бальшавікі пасадзілі м. Сергія ў турму. Вызвалены ён быў па настаяньню рабочых, а з вясны 1926 году, калі мітр. Пётр прадаўжаў знаходзіцца ў заключэньні, прыступіў да перагавораў з уладай аб легалізацыі царквы. Перагаворы гэныя бяз сумленьня распачаліся і вяліся з ведама мітр. Пятра (аб чым сьведчыць пасланьне мітр. Пятра ад 1 студня 1927 года.). Тое, што даручана іх вясьці мітр. Сергію, ня выпадкова: мітр. Сергій іерарх адзін з самых разумных, выдаючыхся, духоўна сільных і з высокай асьветай, прыкладам чаго можа сьведчыць яго адважнае ўсенароднае пакаяньне ў сваей амылцы (пераход у „жывую царкву“). Пасьля вызваленьня з турмы і барацьбы за кананічнасьць вышэйшага царкоўнага ўвазглаўленьня з групаю епіскапаў (Барыс Можайскі і Грыгорый Екатерінбурскі др.), м. Сергій злажыў свае паўнамоцтвы, але мітр. Пётр зноў даручыў яму становішча свайго замясьціцеля. З гэтае пары. мітр. Сергій аканачальна ўзяў у свае рукі ўнутраны ўстрой царквы. Да перавода мітр. Пятра ў Табольск ён заўсёды прадаўжаў радзіцца з ім у дальшым напрамку царкоўнае дзеяльнасьці.

Рэдакцыя зварочанага да нас „абрашчэньня“,—гаворыць м.Еўлогі,—можа і няведама мітр. Пятру, але агульны яго зьмест і сэнс бяз сумленьня былі яму даўно ведамы і праз яго адабраны.

Далей мітр. Еўлогі робіць драбязговую характэрыстыку м. Сергія.

Мітр. Сергі,—гавора ён,—ня з тых, каго можна застрашыць, гэта ня „кар'ерiст“, не „сменавехавецˮ, ня „шкурнікˮ, у чым абвінавачуюць яго людзі, яго ня знаючыя. Ці правідловы, ці не, выбраны праз яго шлях, але ступіў на яго ён, парушаемы выключна заботай і рэўнасьцю аб царкве.

Расейская царква стаіць на раздарожжы. Ці ўдасца ёй распачаць свой унутраньні ўстрой, ці выпадзе перажыць новыя цяжкія няшчасьці, мы з верай і надзеяй сустрэнем абодвы выхады. Раздарожжа і перад намі. Ці захаваем кананічную еднасьць з нашай Мацерай-Царквой, ці адарвёмся ад яе? Адрыву ані мы, а ні зьверхняя ўлада рускай царквы ня жадаем. Але калі пры-

суджана адарвацца, дык няхай гэты адрыў будзе ў выкананы волйй і багаславеньням Мацяры-Царквы, а ня нашым самачынствам. Адарваўшыся ад яе з яе багаславеньня, мы ўсё-ж будзем духоўна з ею адзінымі.

Калі-ж выясьнілася-б, што мітр. Сергій паступіў наперакор мітр. Пятру, то тагды, бязумоўна, усе падае. Мы апынемся тагды прад новым расколам унутры царквы.

### В. К. Нядзельскі ў Парыжу

Многія з нашых чытачоў, асабліва з духавенства, добра памятуюць ведамага праваслаўнага царкоўнага дзеяча, вучыцеля віленскае духоўнае сэмінарыі і сябры Літоўскага (Віленскага) Эпархіяльнага Савету, В. К. Нядзельскага. Як беларус, паходзячы з дзядоў-прадзядоў з Віленскае губ., Нядзельскі быў адзіным з нялічных вучыцяляў сэмінарыі, які, ня гледзячы ні на якія цяжары і перашкоды, пасьля эвакупацыі праз фронт вярнуўся да Вільні, каб працаваць у сваёй роднай школе. У лістападзе 1923 году з няведамых прычын, ён быў арыштаваны з замерам выслаць яго ў Савецкую Расію. Дзякуючы добрым прыяцелям, гэты замер удалося затрымаць. Восям дзён ён бяз неякае віны прымушаны быў валяцца на бруднай падлозе ў арыштным доме ў Маладзечні, пакуль удалося яго адтуль вызваліць. Ня гледзячы ні на якія пратэсты нават у Сойме, ён быў высланы ў Чэхаславацыю. У Чэхіі прынялі заслужанага прафэсара з пашанаю і вызначылі яму нявялікую пэнсыю. У апошнія часы В. Нядзельскі, як мы даведаліся, запрошаны на становішча прафэсара Багаслоўскага Інстытуту ў Парыжу, дзе з гэтага месяца чытае лекцыі.

За што выслалі мясцовага ўраджэнца з дзядоў паходзячага з Віленшчыны (некалькі з яго родзічоў дагэтуль яшчэ гаруць беларускую зямлю) з яго роднае зямлі, так і пазасталося дагэтуль нявядомым.

### Разрашэньне сьвяшч. Каўша.

21 лістапада першы раз служыў пасьля амаль ня гадовага перавыву ў Сьніпішкай царкве (Вільня) сьвяшчэньнік Ал. Коўш, katораму была ў сувязі з арэштам у справе „Грамады" духоўнай уладай забароняна служэньне ў царкве.

### Спробы перараблення царквы ў народны дом.

Аб гэтым пішуць нам не з С.С.С.Р. а... з Халма. Усім ведама, што ў часы найчасьцейшага адбіраньня праваслаўных храмаў больш за ўсе пастрадала Холмшчына. У Халме дасюль яшче на 10.000-ную парафію ёсьць толькі адна царква, якая можа ўмясьціць ня больш 500 чалавек. Сярод захопленых, ці зачыненых царкве́й ёсьць адна яшчэ недабудованая. Ня гледзючы на многачастныя просьбы народу і царкоўных уладаў, дагэтуль усе сьвецкія ўлады ня даюць дазволу на яе дабудаваньне, а між тым сярод мейсцовага польскага грамадзянства ідуць спробы скарыстаць гэту недабудаваную царкву пад будову народнага дому. Весткі аб гэтым дужа ўстрывожылі праваслаўнае насяленьне і змусілі ўзноў царкоўную ўладу зьвярнуцца да Ўраду з просьбай аб дазваленьні на дабудову царквы. Пакуль што не вядома, чым кончыцца справа.

## Палітычная хроніка.

— **Польска - Літоўская справа.** У астатнія часы увесь сьвет быў зацікаўлены Польска-Літоўскім канфліктам. Як ведама, ужо у працягу больш 6-ці гадоў Польшча і Літва знаходзяцца ў „станавішчы вайны". Самай вайны, як мы ведаем, няма, але немашака і нармальных адносінаў, г. е., нямо́жна пераяжджаць літоўска-польскую граніцу, ня можна безпасрэдня пісаць у Літву, пасылаць туды пасылкі і гэдак далей. Усё гэта страшэнна гамавала межнародную таргоўлю і ўсьцяж тварыла вострыя канфлікты паміж варожа настроенымі суседкамі. У астатнія часы адносіны паміж Літвой і Польшчай завастрыліся ужо не на жарты, так што можна было чакаць ледзьве не запраўднай

вайны. З Польшчы выселялі Літоўцаў, з Літвы—Палякаў. У Віленшчыне зачынілі школы літоўскія, у Коўне польскія. На вуліцах Вільні, як паведамлялі газэты, сталі паяўляцца масы ваенных літоўскіх „бежанцаў", якія хадзілі па гораду „у поўным вааружэньні". Але на рэшце аддалі справу на суд Лігі Нацыяў у Жэневе, куды паехалі ад Літоўцаў галава іхняга ўраду Вальдэмарас, а ад Палякаў прэм'ер-міністар Я. Пільсудскі. Пасьля доўгіх спрэчак і прамоў перад Лігай, справу нібы удалося вырашыць „мірным пуцём". Ліга высказалася за спыненьне „ваеннага палажэньня" паміж Літвой і Польшчай і прадлажыла абедзьвём старанам увайсьці у мірныя перагаворы, абяцаючы сваю помач і пасрэдніцтва у выпадках узьнікненьня новых спорных пытаньняў. Вальдэмарас, і маршалак Пільсуцкі прынялі прапазыцыю Лігі.

Першы і галоўны крок такім чынам зроблены; яшчэ ня вядома як скончацца перагаворы. Асабліва вострае пытаньне вызывае праблема Вільні, якую кожная старана уважае, паводле права, сваей (Ёсьць яшчэ трэцьцяя старана: „Рада Беларускай Народнай Рэспублікі") знаходзячаяся ў Чэскай Празе, якая таксама падала ў Лігу свой мэмарыял. Але пакуль што абедзьве стараны задаволены. Польскія газэты пішуць, што „звыцenжыў" маршалак Пільсуцкі, а ковенскія, што перамога асталася за Вальдэмарсам Абодвы перамаглі. Ну і слава Богу!

— **Апека над палітычнымі вязьнямі.** Пат паведамляе, што Усеукраінскі камітэт МОПР прыняў на сабе пратэктарат над палітычнымі вязьнямі у Польшчы.

— **Процiў кары сьмерці.** Саксонскі парлямант адмяніў кару сьмерці, а у нас да гэнае пары істнуюць яшчэ даражныя суды.

— **Справы б. дэпутатаў.** З судавых кругоў паведамляюць, што агульная лічба спраў б. дэпутатаў 203.

— **Завочны суд.** Кераўнік літоўскае эміграцыі Плечкайтіс абвінавачаны літоўскім судом у дзяржаўнай здрадзе.

— **Польскія „Беларусы" палююць за мандатамі.** Як паведамляюць газэты, Палёнафіл Паўлюкевіч, ведамы „дзеяч" па арганізацыі ігральнага клюбу, выстаўляе аддзельны спісак пры выбарах у Сойм і Сэнат. Але адразу можна сказаць, што надта добра ведама яго палітычная фігура, каб беларускі народ аддаў за яго спісак свае галасы.

— **Гэнэральны Камісар па выбарам** Дэкрэтам п. Прэзыдэнта гэнэральным камісарам па выбарам назначаны віцэ-міністар юстыцыі С. Цар, а яго замясьціцелям – віцэстаршыня Апэляцыйнага Суду Дуткевіч.

**С.С.С.Р. і Ліга Нацыяў.** Расійская дэлегацыя 3 сьнежня падпісала дагавор аб забараненьні ўжываць на вайне хымічныя і бактэаралігічныя срэдствы.

**Аб італа-францускіх адносінах.** У блізкія часы пачнуцца перагаворы паміж Італіяй і Францыяй аб марскім „лакарно" на Сяродземным моры. Францыя дабіваецца ад Італіі спыненьня антыфранцузкае гэгомоніі на Балканах і акружаньня Югаславіі. Калі-б Італія на гэта згадзілася, дык тагды Францыя згаджаецца прыступіць да вырашэньня пытаньня аб перанасяленьні Італіі.

**Зьніштожэньне візаў паміж Англіяй і Нямеччынай.** У Лёндане закончаны нарады паміж Англіяй і Немцамі ў пытаньні з'нясеньня візаў. З 31 студня 1928 году візы паміж гэтымі дзяржавамі будуць зьніштожаны.

**Забастоўка ў Немеччыне.** 1 сьнежня ў начы астанавіліся ўсе жалезныя дарогі ў Дрэздэні з прычыны забастоўкі работнікаў. Бастуе каля 3000 асоб. У сувязі з гэтым абастрылася палажэньне ў Бэрліне, дзе жалезнадарожнікі, пагражаючь падтрымаць бастуючых у Дрэздэне, калі-б іх дамаганьні ня былі выкананы.

— **Амэрыка аб камісіі разбраеньня.** Амэрыканская прэса зацікавілася прапазыцыяй савецкай дэлегацыі на мірнай канфэрэнцыі і пэсэмістычна ацэняе палажэньне Эўропы. Мірныя дагаворы фактычна падзялілі ўсю Эўропу на два ўзброеныя абозы. У рэзультаце—Эўропа ня можа пры гэтакай сытуацыі, паводле пагляду амэрыканскіх газэт, утрымаць мір.

— **XV з'езд Камуністычнай партыі.** 4 сьнежня ў Крэмлі адкрыўся 15 з'езд камуністаў. Выбрана спэцыяльная камісія з 65 асоб для вырашэньня пытаньня аб апазыцыі. 7 сьнежня з'езд закончыў дыскусыю. Прынята рэзалюцыя

адабраючая адносіны Сталіна да апазыцыі а асуджаючая апазіцыю.

— **Камуністы ў Кітаі.** Камуністычнае выступленьне ў Кантоне прыняла вялікія размеры. У месце пачаліся пажары, знічтожана частка будынку францускае місыі. Камуністычныя выступленьні прадаўжаюцца. Сяляне выбіваюць земляўласьнікаў.

# З беларускага жыцьця.

— **Канфіската „Сялянскай Нівы“.** Па загаду Камісара Ўраду на м. Вільню 15 сьнежня г. г. сканфіскавана газэта „Селянская Ніва“ (№ 92) за артыкул-перадавіцу: Першае „Парлямэнтскае прадстаўніцтва“.

— **Паседжаньне Цэнтральнага Ураду Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры** і яго Віленскага аддзелу, адбылося ў чацьвер 8 г. сьнежня на якім абгаварываліся бягучыя справы, як праца Беларускага Народнага Тэатру, Юрыдычнай Сэкцыі і г. д.

— **Праца Гуртка Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ў Нарэўцы.** У нядзелю 20 лістапада гуртком быў наладжаны спэктакль - вечарына. Адыграна драма „Страхі жыцьця“ і камэдыя „Пасланец“. П'есы былі адыграны вельмі добра. На прысутных п'есы зрабілі прыемнае ўражаньне. Урад гуртка шчыра дзякуе аматарам-артыстам за культурную працу па разьвіцьцю нашага гаротнага сялянства.

— **6 г. сьнежня адбыўся сход Віленскага Беларускага Нацыянальнага Камітэту.** Былі разгледжаны гэтакія справы: Адносіны Віл. Беларускага Нацыянальнага Камітэту да выбараў у Сойм і Сэнат, справа Беларусізацыі Віленскай Праваслаўнай Духоўнай Сэмінарыі, Пратэст проці перасьледаваньня беларускай мовы ў касьцёлах.

Прынята рэзалюцыя, якая гавора аб неабходнасьці, як найшырэйшага аб'яднаньня ўсіх беларускіх нацыянальных сілаў на выбары і ўступленьні ў агульны блёк нацыянальных меншасьцяў.

У справе беларусізацыі Духоўнай Сэмінарыі прыняты апрацаваны прэзыдыўмам адпаведны мэмарыял, які будзе скіраваны да адносных уладаў з дамаганьнем поўнае беларусізацыі для Сэмінарыі.

У справе пратэсту проці выкіданьня беларускае мовы з касьцёлу даручана прэзыдыуму Камітэту запратэставаць належным парадкам.

— **Беларуская прыватная школа** ў Шаўлянах Браслаўскага павету была і ёсьць сольлю ў воку ўва ўсіх тых, хто змагаецца з беларускім школьніцтвам. Але-ж доўгі час не маглі ніяк прычапіцца. Нарэшце-ж уздумалася ім стэрарызаваць вучыцельку Булыгу, а дзеля гэтага арыштавалі яе. Ведама, як усюды і заўсёды гэта робіцца, — прычапілі антыдзяржаўную працу, а праца яе выяўлялася толькі ў тым, што яна вучыла беларускіх дзетак, у беларускай школе ў роднай мове.

Пратрымаўшы вучыцельку Булыгу і яе мужа нейкі час на Лукішках, — іх звольнілі з пад арышту, а калі так, дык беларуская школа ў Шаўлянах утрымаецца і на далей.

Вучыцелька Булыга пасьля свайго звальненьня зайшла ў Беларускі Нацыянальны Камітэт, які акурат меў паседжаньне. Белар. Нац. Камітэт прывітаў вучыцельку М. Булыгу, як шчырую змагарку і працаўніцу на ніве беларускага адраджэньня.

— **У нядзелю 27 лістападу г. г.** кіраўнікі баранавіцкага павятовага сойміку пазаздросьцілі Паўлюкевічу і зрабілі свой зьезд, але-ж яшчэ значна лепей. Зьезд самаўрадаў адбыўся ў памешканьні старoства, які староста асабіста і прывітаў.

# НАША ПОШТА.

Замошэ — Міхаілу Хруцкаму— Часопісь выслана.

Я. Красоўскаму — Артыкул да друку не надаецца з повaду вялікай лёгкасьці думкі ў вырашэньні паважных пытаньняў. Паводле Вашага жаданьня Рэдакцыя перадала Ваш артыкул у „Бел. Крыніцу“.

Журовіцы— Канцэлярыя манастыра. Часопісь высылаецца акуратна. Неатрыманыя №№ дашлём і адначасна прымаюцца меры, каб на далей часопісь дахадзіла да адрэсатаў.

в. Клепачы — Гушча А. Пробны № часопісі высланы.

## Да нашых падпішчыкаў.

Рэдакцыя „Праваслаўнае Беларусі“ падае да ведама сваіх чытачоў і падпішчыкаў, што з новага году наша часопісь будзе выходзіць што-тыдзень.

Падпісная цана:

на 1 месяц — 1 зл.

на ¼ году — 3 зл.

За граніцу плата падвойная.

## ДА ГР. ПАДПІШЧЫКАЎ.

Рэдакцыя просіць усіх, спаўчуваючых нашай часопісі, прысылаць карэспандэнцыі аб царкоўным, палітычным, грамадзкім і культурным жыцьці, аб незаконных чынах урадаў, а такжа наагул аб жыцьці нашых мясцовасьцяў.

У Рэдакцыю паступаюць ведамасьці аб тым, што шмат нашых чытачоў не атрымалі № 3-га нашай часопісі. Рэдакцыя просіць чытачоў аб каждым неатрыманьні паведамляць, яе каб можна было выправіць памылкі пошты.

**Рэдакцыя.**

## ЗЬМЕСТ.



Рэдактар-выдавец: Л. Голад. Друк. ім. Ф. Скарыны, Людвісарская 1.